# „Der Jude“

## Eine Monatsschrift
## “Яўрэй“
### Штомесячны часопіс

## 1920

### Паведамленьні пра яўрэйскае жыцьцё

**Яўрэйскае мастацтва ў Кіеве і Петраградзе (1918-1920)**
**Р. Бэрнштайн-Вышніцэр**

... Рыбак захоплены сузіраньнем старых арнаментаў, ён зьяўляецца значным капістам. Пасрэднаму капісту ніколі б не ўдалосяаднавіць насьценныя малюнкі магілёўскай сінагогі. Іх брудна карычневыя адценьні не мелі б ніякага тэмбру, ніякай вібрацыі. Мастацкае вока Рыбака заўважыла ў іх нюансы, чырванавата чорныя глыбіні і больш халодныя яркія паверхні. Ён, сучасны аналітык, расклаў цудоўны дыван (магілёўскі насьценны дэкор складаецца з геамэтрычных зьвілістых перапляценьняў, іератычных львоў і грыфонаў, стылізаваных караблей – стракаты дывановы малюнак) на першапачатковыя элемэнтарныя прамавугольныя сеткі, ён дае ўбачыць каркас пад гульлівым убраньнем, ён паглыбляе і памнажае ўражаньні аматара, і ўнушае яму пры гэтым эмоцыі руху, якія, магчыма, не мог бы выклікаць арыгінал. Я мусіла казаць гэта шмат разоў, калі я назірала за тым, ці іншым эфектам на яго карцінах ў магілёўскага цыклу. Рыбак – празорца, імправізатар. Час, праведзены ў Магілёве, кантакт з яўрэйскім мястэчкам далі яму шмат самастойных тэмаў. Такім чынам узьнік яго фрыз: “Der Rebbe kimt” (Рэбе прыязджае). Гэта не ўрачысты сінагогскі насьценны дэкор, хутчэй поўны гумару жанравы малюнак і ўсё ж не толькі па прыродзе. Слушным, сапраўдным, непадробным зьяўляецца радасны натоўп, які танчыць, які вітае радаснымі воклікамі рабі, непараўнальна натуральна, непадробна па яўрэйску выглядаюць цудоўныя, вясёлыя кабылкі. І ўсё ж гэта ўсё толькі стылізацыі, перабольшаньне. Нейкім невядомым чынам у гэтых курчавых, кудлатых, хвалістых лініях выяўляецца воблік яўрэйскага мястэчка. Гэта сталае сьведчаньне цэлай эпохі, яе апафеоз.

# „Der Morgen“

## “Ранак“

## Жнівень 1929

### Пра розныя кнігі

**Макс Дынеман**

(з рэцэнзіі на кнігу Карла Шварца “Яўрэі ў мастацтве” / “Die Juden in der Kunst”, 1928)

...На 59 старонцы насьценную карціну ў магілёўскай сінагозе проста нельга было называць “Відок Вормса”, глядач мог бы падумаць, што перад ім сапраўды выгляд Вормса, пры тым што мастак намаляваў са сваёй уласнай фантазіі малюнак нейкай купкі рускіх цэркваў з вежамі-цыбулямі і проста напісаў над ім назву “Вормс” у яе яўрэйскім варыянце. На паралельнай сьцяне аналягічным чынам ён намаляваў Ерусалім. Пры разглядзе гэтых малюнкаў кідаецца ў вочы – і такім чынам выходзіць за межы гэтый кнігі – наступнае: чаму на кожным сучасным малюнке яўрэяў тыпам яўрэя самаго па сабе зьяўляецца усходні яўрэй у яго тыповым выглядзе, строі і вопратцы? Чаму ніякі мастак не адважваецца паказаць сёняшнега яўрэя ў праяўленьні яго рэлігіёзнасьці.

# "Гісторыя магілёўскага габрэйства"

## А. Ліцін

### Успаміны аб апошніях днях Халоднай сінагогі

Пра сінагогу на Школішчы напрыканцы 30-х гг. Вельмі кранальна распавёў беларускі пісьменьнік Юрка Віцьбіч (1905–1975). 29 чэрвеня 1972 г. грамадзянін амерыкі Юры Стукаліч (ён жа – Юрка Віцьбіч), сталы аўтар нью-йоркскага «Новага Рускага слова» апубліковаў на старонках газэты артыкул: «Яна была ў Магілёве»:

«... У 1937 г. мне давялося пабываць у ёй разам з былым вучнем габрэйскай духоўнай семінарыі – ешыбота, Самуілам Плаўнікам, які стаў пад псеўданімам Зьмітрок Бядуля, адным з найбольш папулярных беларускіх пісьменьнікаў. Мы доўга шукалі яе тады, бо мінакі на пытаньне пра яе альбо з падазрэньнем разглядалі нас з галавы да пят, нібыта нейкіх правакатараў, альбо паблажліва, калі не пагардліва, усьміхаясь – маўляй, ёсьць яшчэ дапатопныя суб’екты, якія ў апошнім гаду другой сталінскай пяцігодкі шукаюць сінагогу. Толькі калі Зьмітрок Бядуля па-габрэйску зьвярнуўся да старага магілеўчаніна, той, спачатку аглядзеўся, а потым ахвотна і падрабязна растлумачыў нам, як трапіць да яе. Яшчэ здалёк мы пазналі яе па высокаму, шматслойнаму з крывалінейнымі схіламі даху, які вызначае характэрны абрыс большасьці сінагог Беларусі. І вось, нарэшце, праз адкрытыя насьцеж дзьверы мы ўваходзім унутр. За ўвесь час свайго доўгага існаваньня, яна, сьціплая па памерах, прымала мора людскога гора, якое на сьвяты Йом Кіпур пад гукі рытуальнага рога, шафара, агалошваліся радасным воклічам – спадзяваньнем: Лешона Габоа Бійрушалайм! Што на старажытнагабрэйскай мове значыць: У наступным годзе з Ерусаліме!

Знутры сінагога была распісаная таленавітай рукой Шагала – прадзеда Марка Шагала. Незвычайнае, наогул, для сінагог насьценнае мастацтва, тут, насуперак забаронам Талмуда, да краёў напоўніла ўвесь будынак натхнёнай і сьвятой сімволікай біблейскіх прарокаў, зараз пакрытай зьнізу... нецэнзурнымі надпісамі вуглём і крэйдай.З чатырох калён на кутах амвона-бімы, якая падтрымлівала звод, адна была, відавочна, наўмысна паваленая, і той перакасіўся, пагражаючы абрынуцца. У вокнах не толькі выбіты ўсе шыбы, але і пераламаныя пераплёты рамаў. На падлозе, запэцканай брудам, валяліся ашмёткі разадраных сьвяшчэнных кніг.

Праз два гады мне прыйшлося зноўку наведацца ў Магілёў, але, спяшаючыся па знаёмай мне ўжо дарозе да сінагогі, я не знайшоў на яе месцы нават падмуркаў. У 1938 г. яе разабралі, а нібыта акамянелыя ад старажытнасьці і разам з тым без адзінай расколіны бярвеньні скарысталі на калодзезныя зрубы. Толькі ў мясцовым краязнаўчым музэі захавалася некалькі фотаздымкаў сінагогі, алне не яе зьнішчанага мастацтва, а таксама дакументальныя пацьверджаньні таго, што яна сапраўды была распісаная Шагалам.

Загінуў падчас бежанства вайны Зьмітрок Бядуля, які пахаваны на могілках Уральска, такога далёкага ад дарагой яму Беларусі . І калі думаеш зараз пра старажытную сінагогу на Магілёўскім Школішчы, то заўсёды ўзгадваецца, як ён, тады, у той апаганенай сьвятыні, наўзрыд заплакаў. А мабыць тое быў не плач, але сінагагальная малітва так падобная на стогн, і сьлёзы беглі адна за адной па яго старыкоўскім твары».